# СТУДЭНСКАЯ ДУМКА

## №2 1990

ВОРГАН ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНТАЎ

# ! ЧЫТАЙЦЕ

## ЛІСТ ДА СЯБРУКА

ДЗЕНЬ ДОБРЫ,БРАЦЕ !

Мы з табою,дзякуй Богу,дажыл1 ўжо да тых гадоў,кал1 нас вядзе свой розум.Але нас з табою трымаюць.Трымаюць малая стыпэндыя /без бацькоў мы - жабрак1,а з бацькам1 ўжо сорамна/, прымусовае размеркаваньне /могуць 1 ў чужы Сыб1р,могуць 1 пад свой Чарнобыль - маўляў,дзец1 там жывуць,дык вучыце,карм1це,мыйце,нараджайце й сва1х/,жыльлё па-савецку /па-пяцёх у пако1 замест трох/,якасьць адукацы1 /з нашым дыплёмам...эх,Канада.../.Камсамол 1 прафсаюз яўна не ахопл1ваюць ус1х нашых праблемаў,а ў тым,што ахап1л1 - клопату пра нас ды зацятасьц1 ў адстойваньн1 нашых праблемаў мы таксама ня бачым.А хочаш жыць больш-менш прыстойна -- трэба л1сьл1в1ць,быць "акт1в1стам",старастам, маўчуном 1 г.д.Бязвер'е ,абыякавасьць да ўсяго 1 ўс1х,заняпад культуры 1 духоўнасьц1,адчужанасьць 1 варожасьць,забыцьцё маральных каштоўнасьцяў,пак1нутых нам у спадчыну продкам1- нашаму пакаленьню даводз1цца зьб1раць гэтае журботнае жн1во.Сыстэма прымушае нас моўчк1 кладас ьц1ся ў ейную "будову".

Але Чалавек - ня сродак,а мэта.1 мэтай,якая аб'яднае нас,можа быць тольк1 адно - выхаваньне новай,свабоднай 1 сьвядомай генэрацы1,якая здольная сама зраб1ць выбар 1 не дазвол1ць праводз1ць над сабой безадказныя сацыяльныя эксперыменты.

Н1 свабоды,н1 правоў н1 хто нам ня можа даць,кал1 мы сам1 не запатрабуем 1х.Нам будаваць дэмакратычнае грамадзтва,нам адраджаць нацыянальную культуру,нам проста жыць.Таму галоўны напрамак нашае дзейнасьц1 - ахова жыцьцёва важных 1нтарэсаў студэнства,1нфармацыйны абмен,узаемадапамога 1 сал1дарнасьць,прававая асьвета 1 заканадаўчая 1н1цыятыва.

Нарэшце,ня будзем забываць,што мы маладыя, а гэта значыць - нашыя сэрцы адчыненыя для сяброўства.Наш саюз - гэта кантакты са студэнтам1 ўсяго сьвету,гэта новыя сустрэчы 1 сябры,гэта магчымасьць ц1кава правесьц1 маладыя гады.

Мы закл1каем студэнтаў,а таксама ўс1х навучэнцаў дзейн1чаць.Г1сторыя дае нам шанц,1 мы пав1нны яго выкарыстаць.Памятайце - разам мы дужыя 1 вольныя.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ !

# НАШЫ КААРДЫНАТЫ

МЕНСК МЕНСК МЕНСК МЕНСК МЕНСК

БП1 - Скрыган Ярась: тэл. 31-03-20

БДТМ1 - Перапечын Уладзя:мастацка-прамысловы ф-т 1 курс 3 група.

БДУ - Градоўк1н Сяржук: тэл. 23-09-70 юрыдычны факультэт.

- Сугойдзь Вадз1м: тэл. 59-66-12 г1старычны факультэт.

БТ1 - Вайтусёнак Алесь: тэл. 29-54-03

МДМ1 - Салошк1н Зьм1цер: тэл. 31-09-56.

МДП1 - Пятроўск1 Ярась:вул.Артылерыстаў 12 пакой № 217 ф1лалаг1чны факультэт.

Рэдакцыя "Студ. Думк1"

- Вайцяхов1ч Зьм1цер: тэл. 31-73-70

БРЭСТ БРЭСТ БРЭСТ БРЭСТ БРЭСТ

Адрэсы:

- Бараноўск1 1гар: 1нд.224013 вул. Набярэжная 22 - 78 .
- тэл. 2-24-98 вул. Савецкай Канстытуцы1 5 - 113 .

ГОМЛЯ ГОМЛЯ ГОМЛЯ ГОМЛЯ ГОМЛЯ

- Саладоўн1каў Андрусь: тэл. 55-79-03

ГАРОДНЯ ГАРОДНЯ ГАРОДНЯ ГАРОДНЯ ГАРОДНЯ

- Масько Едрусь: вул. Даватара 27 - 113

МАГ1ЛЁЎ МАГ1ЛЁЎ МАГ1ЛЁЎ МАГ1ЛЁЎ МАГ1ЛЁЎ

- Сярдзюкоў Алесь: тэл. 44-41-90 служб.

ПРАЦЯГ НА СТАР. 4.

# МАЯ МІ(ПА)ЛІЦЫЯ....

Ц1 спрабавал1 вы зраб1ць параўнальны анал1з дзейнасьц1 нашай м1л1цы1 з,скажам,пал1цыяй Сан-Францыска? Кажаце ўсе паказальн1к1 бу-

## Вандэя—

дуць ня ў нашую карысьць? Ды не .Памыляецеся. Ня тольк1 спаймаюць злодзея,але й перахопяць яго пры зьдзяйсьненьн1 злачыннага акту - вось на што здатныя нашыя доблесныя праваахоўныя ворганы.

25 сакав1ка г.г. а 12 гадз1не на Лен1нск1м праспэкце,ля Дому друку напагатове стаял1 некальк1 машынаў.Чакал1 яны ня доўга.Вось 1 ён, чыё прозьв1шча стала ў Менску пагалоскай:Пушк1н.......У белай вышыванай кашул1,зь белым сьцягам,на як1м чырванеў закл1к "Ад Беларус1 калян1яльнай да Беларус1 незалежнай", выйшаў ён на сярэдз1ну праспэкту 1 адразу быў папярэджаны:нельга парушаць прав1лы дарожнага руху. Не падзейн1чала... 1 перад натоўпам зац1каўленых наз1ральн1каў ды разявакаў,пад наглядам дзьвух в1дэакамэраў была праведзена шыкоўная апэрацыя па затрыманьню 1 абясшкоджаньн1 небясьпечнага злачынцы - студэнта-дыплёмн1ка з тэатральна-мастацкага 1нстытуту.Злачынца аказаў супрац1ўленьне.Але ўстояць аднаму супраць мноства сабраных для поўнай гаранты1 м1л1цыянэраў ня здолеў.Апэрацыя была пасьпяхова закончаная.Для гэтага спатрэб1лася ўсяго некальк1 хв1л1наў.Малайцы!Дагнал1?-Не!Перагнал1 сан-францыскую пал1цыю.Але хочацца спытаць,ц1 ня сорамна было вам,маладым людзям у м1л1цэйскай форме,самым нетактоўным 1 гвалтоўным чынам на вачох зьдз1ўленага натоўпу разыгрываць спэк-

## —Прававая

такаль з зап1хваньнем хлопца ў машыну 1 прылюдным зьн1шчэньнем лёзунгаў,у сэнсе як1х вы нат не разабрал1ся.1 гэткае здарылася пасьля вуснага дазволу т.Валодзьк1най зь Менгарвыканкаму.Што ж каштуюць тады словы аф1цыйнай партыйнай асобы?

Але болей пужае 1ншае.Згаданы выпадак - тольк1 адз1н з мноства 1ншых,кал1 парушал1ся правы грамадзянаў нашае дзяржавы,што выразна праяўляецца 1 на "звышдэмакратычных" выбарах у Дзяржаўную Раду Беларус1,1 кал1 на вул1цах адбываюцца мерапрыемствы,як1я нясуць пагрозу недатыкальнасьц1 нашай "пан1" - камун1стычнай парты1.Ф1зычнае 1 маральнае ганьбаваньне чалавека непрымальна для прававой дзяржавы,ну а кал1 прымальнае ў нас,то хочацца спытаць, у якой кра1не мы жывём?

# ! СА СЬВЯТАМ !

ВЯЛІКДЗЕНЬ

ХРЫСТОС ВАСКРОС!

Хрыстос васкрос!..Усюды радасць,
Усё глядз1ць смялей,святлей;
Вял1к1 мучальн1к,здаецца,
Абняў ус1х ласкаю сваей.

Хрыстос васкрос!..Неўгамонна
Плыве па н1вах,пушчах кл1к,
Плыве адна святая думка
З канца ў канец,як свет вял1к.

Хрыстос васкрос!..-пяе сялян1н
З сваёй убогаю раднёй,
Забыўшы песн1 аб прадвесн1,
Забыўшы ўсё ўсёй душой.

Хрыстос васкрос!-пяе с1ротка,
Слуга,таптаная людзьм1;
Пяе ў чужыне падарожны,
Забыты бл1жн1м1 сваім1.

Хрыстос васкрос!-пяюць 1 тыя,
Хрыста згуб1ўшыя сыны,
Што ўц1хамолку куюць путы
Для нашай беднай старапы.

Хрыстос васкрос!..К табе,о божа,
1 я ў дзень гэты просьбу шлю:
Хай Беларусь,мая старонка,
Уваскрэсне к вольнаму жыццю!

Я.КУПАЛА

ВЯЛІКДЗЕНЬ

СТУДЭНСКАЯ ДУМКА



# Гісторыя КПСС
## нашы справы

У М1Н1СТЭРСТВА НАРОДНАЕ АДУКАЦЫ1 БССР

АД СТУДЭНТАЎ 1 ВЫКЛАДЧЫКАЎ НАВУЧАЛЬНЫХ УСТАНОВАЎ БЕЛАРУС1

АДКРЫТЫ Л1СТ.

У кра1не 1дзе працэс абнаўленьня, партыя прызнае стварэньне шматпартыйнае сыстэмы, пераглядаюцца старыя застойныя прынцыпы, а ў той жа час у навучальных установах гэтыя "прынцыпы" адыгрываюць к1руючую ролю. Студэнты працягваюць вывучаць г1сторыю КПСС, навуковы камун1зм, маркс1сцка-лен1нскую ф1лязоф1ю, навуковы атэ1зм, пал1тычную г1сторыю XX стагоддзя 1 1нш. Мы выступаем за дэ1дэялёг1зацыю 1 дэпал1тызацыю адукацы1, а таму

ПАТРАБУЕМ:

1. вывесьц1 грамадзк1я дысцыпл1ны /г1сторыя КПСС, навуковы камун1зм 1 1нш./ з шэрагу вядучых прадметаў 1 ўвесьц1 ў курс факультатыўных прадметаў, як1 ў роўнае ступен1 адлюстроўвая бы вядучыя 1дэялёг11 ды пал1тычныя плын1 сьвету;
2. дэ1дэялёг1зацы1 1 дэпал1тызацы1 спэцыяльных дысцыпл1наў;
3. увесьц1 ў навучальных установах выкладаньне факультатыўнага курсу "Г1сторыя 1 культура Беларус1".

За кошт скарачэньня гадз1наў на вывучэньне вышэйзгаданых прадметаў мы патрабуем павял1чыць аб'ем заняткаў па спэцыяльных прадметах 1 прывесьц1 зьмест Вучэбнага працэсу ў навучальных установах у адпаведнасьц зь 1хным1 назовам1.

Чалавек пав1нен быць вольным ад 1дэялёг1чнага 1 пал1тычнага ц1ску.

ВОЛЮ ТВОРЧАСЬЦ1 !

14 сакав1ка 1990 году.

Задз1ночаньне
Беларуск1х
Студэнтаў.

| Прозьв1шча, 1мя | Подп1с | Адрэса ц1 мейсца працы |
| --- | --- | --- |

УВАГА!

УВАГА!

УВАГА!

1ДЗЕ ЗБОР ПОДП1САЎ. ДАЛУЧАЙЦЕСЯ ДА ГЭТАЙ СПРАВЫ! НЯХАЙ НЕ АБМ1НЕ ЯНА АН1ВОДНАГА СТУДЭНТА!

Л1СТЫ МОЖНА АТРЫМАЦЬ, ПАТЭЛЕФАНАВАЎШЫ Ў РЭДАКЦЫЮ "СТУД. ДУМК1", АЛЬБО ПА КАНТАКТНЫХ ТЭЛЕФОНАХ Ц1 АДРЭСАХ У АБЛАСНЫХ ЦЭНТРАХ БЕЛАРУС1!

# ПЕРШЫЯ КРОКІ ЗБС

24 сакав1ка г.г. прыкладна каля 50 асобаў/разам зь дзецьм1 з навакольных дамоў/студэнтаў,талакоўцаў 1 вольных памагатых насупроць лякарн1 хуткай дапамог1 высадз1л1 гаёк з 300-350 дрэўцаў.Гэта была першая канкрэтная акцыя нашага Задз1ночаньня,яна прайшла пад назовам:"Дзень зямл1.Дрэва незалежнасьц1".1дэю падобнай акцы1,выказанай на глябальным экалягічным форуме ў Маскве,падхап1ў 1гар Кутал оўск1 /:Сьв1танак" БТ1/,як1 адначасова ўваходз1ць у Каардынацыйную Раду Маладзёжнага экаляг1чнага руху."Белая Русь".Дзякуючы адм1н1страцы1 БТ1 1 Негарэльскага вучэбна-вопытнага лясгасу таго ж 1нстытуту пасадковы матар'ял быў дастаўлены ў Менск 1 стаў гаем. На гэтую ж акцыю прыпадае першае выкарыстаньне сьцягу ЗБС.Ус1м дзякуем!

З прычыны адмены м1тынгу БНФ,прызначанага на 25 сакав1ка г.г. а 14 гадз1не, акцэнт сьвяткаваньня быў перанесены на пляц Вол1. Там па 1н1цыятыве ЗБС на дом,у як1м адбылося абвяшчэньне БНР,пад бел-чырвона-белым сьцягам была сымбал1чна ўстаноўленая памятная шыльда прыгожага вырабу з 1нфармацыяй аб меўшай тут 72 гады таму,мейсца падзе1.Прысутныя ўсклал1 кветк1 1 прасьпявал1 шэраг патрыятычных песьняў.В1дов1шча выкл1кала вял1кую ц1кавасьць 1 шоўшых м1ма людзей:у коле м1л1цы1 1 спэцназу стракатае мора сьцягоў - беларуск1х,ЗБС,Эстон11;лёзунгаў - на лац1нскае мове,па-беларуску лац1нкай 1 к1рыл1цай.Пасьля м1л1цыя была вымушаная даць шлях калёне,якая перайшла ў парк Янк1 Купалы,дзе яшчэ некальк1 гадз1наў сьпявала,гукала вясну,таньчыла 1 гуляла ў беларуск1я гульн1.

# СТУДЭНСКАЯ ДУМКА

## ДЛЯ ВАС, СТУДЭНТЫ ТОЛЬКІ ПА ПЯТНІЦАХ


Зь ліпеня 1989 г. каліфарнійскі адзьдзел БАЗу /ЗША/ пачаў выдаваць часапіс "BIELORUSSION REVIEW" /Беларускі агляд/. Ён выходзіць адзін раз на квартал па-ангельску.

# ІНФАРМАЦЫЯ-АБ'ЯВЫ

Часапіс складаецца з наступных галоўных рубрык:

1. Хроніка падзеяў на Беларусі /ад апошніх 10 гадоў/.
2. Актуальныя праблемы: родная мова, чарнобыльская трагедыя, сталінскія злачынствы /Курапаты/, экалегія.
3. Агляд заходняга друку, які піша пра Беларусь.
4. Беларусы па-за межамі рэспублікі.

! Адрэса рэдакцыі: "BIELORUSSION REVIEW", P.O. BOX 10353 TORRANCE CA. 90505 USA. !

Увага!!! Студэнты маюць ільготу - атрымліваць часапіс задарма. Вам застаецца толькі паведаміць свае каардынаты ў вышэйзгаданую адрэсу рэдакцыі.

Паводле газэты беластоцкіх беларусаў "Ніва".

У Дзяржаўным Мастацкім Музэі /вул. Леніна 20/ мы прачыталі вось такую абвестку:

"Загадам міністра культуры БССР за № 186 ад 8 сьнежня 1989 году пятніца абвяўляецца днём вольнага наведваньня асобнымі экскурсантамі." Запрашаем студэнтаў скарыстаць гэтую магчымасьць і задарма наталіць прагу да мастацтва.



ПРОСІМ ПРАБАЧЭНЬНЯ, АЛЕ РАЗРЭКЛЯМАВАНЫ НАМІ ГАРАДЗЕНСКІ РОК-ФЭСТ "РОК-КРОК" ПЕРАНОСІЦЦА НА НЕВЯДОМЫ ПАКУЛЬ ТЭРМІН. ВЕЛЬМІ ШКАДУЕМ РАЗАМ З ВАМІ!

# --РЭКЛЯМА--

Набраўшы пасьля 21 г-ны вечара тэл. 61-82-13 і спытаўшы Андруся Клюніна, Вы маеце магчымасьць замовіць яму наступныя музычныя запісы:

- Данчык /2-ве апошнія кружэлкі - па 45 хв-н/
- Сяржук Сокалаў-Воюш /"Касінерскі цыкл"-45х/
- Алесь Камоцкі /90 - хвілінаў запісаў/
- Вольга Цярэшчанка /40 - хвілінаў запісаў/
- рок-гурт "Мроя" /1987г. 1988/89г.г. па 30х/
- рок-гурт "Уліс" /1989г. - 45 хвілінаў/
- рок-гурт "Бонда" /1987г. - 45 хвілінаў/

Перадаючы Андрусю касэту альбо дасылаючы яе яму, пакладзіце ў сярэдзіну паперку са сваім прозьвішчам, адрэсай /тэлефонам/ і замоўленымі ванаўцамі. Тэрмін запісу 1-10 дзён.

КАЛІ ЛАСКА !!!

## НАШЫ КААРДЫНАТЫ: !!!

ВІЦЕБСК ВІЦЕБСК ВІЦЕБСК ВІЦЕБСК ВІЦЕБСК

- Сьвятлана: тэл. 1-51-37
- Глаз Валера: Маскоўскі пр-т дом 70, корпус 1, пакой 110.

## ЗРАБІЦЕ СВОЙ ВЫБАР!

Рэспубліканская рада ТБМ імя Скарыны вылучыла кандыдатам у Менскі гарсавет студэнта гістфака БДУ Вітушку Сяржука/ "Талака", ЗБС/. Ён балатуецца па 3 Унівэрсытэцкай акрузе/вул. Кастрычніцкая, Сьвярдлова №1 інш./Сярод 4400 выбаршчыкаў гэтае акругі абсалютная большасьць студэнты БДУ і БТІ.

Калегі, заклікаем 22 красавіка галасаваць за нашага хлопца!

Тых, хто зацікавіўся студэнтскай справай, тых, хто мае што сказаць і хоча падзяліцца сваімі думкамі на старонках нашае часапісі з другімі студэнтамі, запрашаем зьвязацца з намі па кантактным тэлефоне: 31-73-70. Клікаць Вайцяховіча Зьміцера.


Дзякуем аўтараў артыкулаў зьмешчаных у нумары!

Нумар падрыхтаваны 1-5 красавіка 1990 року.
Друкуецца накладам 5000 экз.
У падрыхтоўцы нумару ўдзельнічалі: Ігар Міхно Вайцяховіч Зьміцер ды інш.